№ 2 Вільня, 13 чэрвеня 1920 г. Год I

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДУМКА

**Палітычна-грамадзянская і літэратурная часопісь**

**Выходзіць што тыдзень.**

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вострабрамская 9—5, адчынена штодзень ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

Асобны нумэр 2 маркі, на 1 год 100 мк., на 6 месяцоў 50 мк., на 3 мес. 25 мк., на 1 м. 8 м.

## Беларускае селянство і зямельнае пытаньне. *)

II.

Уся зямля на Беларусі знайходзіцца ў валаданьні селянства і памешчыкоў.

Селянская зямля парэзана на вузенькія палоскі, каторыя цягнуцца даўгімі стужкамі пад-час на вярсту і больш. Такіх палосак у кожнага гаспадара па некулькі, так як калі дзялілі зямлю, ўзятую ад памешчыкаў пры звальненьні селян ад паншчыны, то хацелі усіх селян надзеліць адзінакавай зямлёю. Каб гэтаго дасягнуць, трэба было кожнаму даць зямлі і лепшай і горшай і сярэдняй. Можа быць на некаторы час такі падзел зямлі і здаваўся найлепшым, але толькі да той пары, пакуль поўные надзелы не пабіліся на часткі паміж дзецьмі і ўнукамі. Цяпер-жа, калі поўным надзелам валадае можа толькі адзін з тысячы, стала зусім ясна, як шкодна так званая празпалосіца. Гаспадар ня можа добра прыглядзець за зямлёю, каторая раскідана у розных даволі далёкіх мясцох. Аддзельных такіх кавалкаў бывае пад час у аднага гаспадара 5, 10 і нават 25. Каб ўзгараць, угноіць і засеяць гэтые кавалкі, колькі трэба лішняга часу страціць, а потым яшчэ трэба даглядаць, каб хто небудзь не стравіў поля. Але-як даглядзець, калі зямля у раскіданых кавалках? Пойдзеш у адзін канец, а хто небудзь у другім канцы спасьвіў твой авёс. Німа чаго і казаць, што празпалосіца і раскіданасьць зямлі шмат шкодзяць селянскай гаспадарцы і выклінаюць розныя непатрэбныя пабочныя зьявішча, як сваркі за межу, за патравы, розныя зладзейства на полі і гэтак далей.

Что трэба рабіць, каб зьніштошыць празпалосіцу і раскіданасьць селянскай зямлі? Яшчэ пры царскім рэжыме беларускае селянство ў многіх месцовасьцях стало выселяцца на хутары. Замест палосак, раскіданых у розных месцох, гаспадар даставаў зямлю ў адным кавалку, а калі не увадным, то ў двох, або трох кавалках, пры чым пахатная зямля заўседы была ўвадным кавалку, а сенажаць і выган у другім, або сенажаць ў другім, а выган—у трэцім. Вялікай шкоды ад таго, што сенажаць, выган і поле знайходзяцца ні увадным кавалку, быць ня можа.

Чым далей і больш селянство праконывалася у выгоднасьці пераходу ад празпалосіцы на хутары, тым больш зьяўлялася хутароў. Аднак, добрая па ідэі гэтая зямельная рэформа не была поўнай і з гэтай прычыны не пасоўвалася ўперад так хутка, як можна-б было чакаць. Справа ў тым, што дзелячы селянскую зямлю на хутары царскі урад за рэдкімі выключэньнямі нічога да селянскай гаспадаркі не дадаваў, а калі і дадаваў, то — з пад высечанага лесу. Вялікіх памешчыцкіх маёнткаў, каторые былі пад бокам, царскі урад не чапаў. Селянство бачыло усе гэта і было нездаволено. Яму было незразумелым, чаму гэта панская зямля, каторую, пры усім тым, падчас пан рэдка і бачыць, не можа быць перададзена хоць бы нават за

*) Гл. № 1 „Н. Д."

выкуп беззямельнаму чы малазямельнаму селяніну. І селянін рабіў з гэтага той вывад, што царскаго ураду не абходзяць мужыцкіе інтарэсы, што паны для яго даражэй.

Наш беларускі селянін разумеў і разумея зямельнае пытаньне шырока. Ен лічыў і лічыць, што адным перадзелам селянскай зямлі на хутары зямельнай справы не вырашыш, што покуль ў аднаго будзе зямлі надта многа, а ў другого надта мала, да той пары адзін будзе паміраць з голаду і холаду, будзе цёмным неўчам, будзе хворым, а другі будзе багатыром, адзетым, абутым, як найлепей, сытым, здаровым і будзе нічога не рабіць, бо за яго грошы яму зробяць усе другіе.

Наш селянін з зямельным пытаньнем звязаў і соцыяльную і гасударственную праблему Беларусі, т. е. ён думае, што покуль ёсьць у нас кляса малазямельных і беззямельных і покуль наогул усе селянство, як працуючы на зямлі элемэнт, не дабьецца пераходу усей, апрача гасударственнай, зямлі у свае рукі, да тэй пары селянства не будзе роўным у правох з памешчыкамі і будзе ад іх залежаць, як ад клясы багатшай і культурнейшай, у руках каторай будзе знаходзіцца і ўлада.

Каб усяго гэтаго ня было, селянство нашае, як яно ўперад ужэ падкрэсьлівало на сваіх зьездах, дабіваецца перадачы (за выкуп, чы без выкупу — гэта іншае пытаньне) усёй зямлі ў Беларусі — ў рукі працуючаго ў Беларусі народу, але толькі не для таго, каб закладаць селянскія зямельныя каммуны, а ў прыватную ўласнасьць гаспадара - зямляроба.

Селянін.

(Працяг будзе).

## Зямельная рэформа на „Усходніх Землях“.

Пад датай 26 мая начальнік Польскаго Гсударства падпісаў у Бельведэры сьледуючае распаражэньне:

„Прызнаючы пільную патрэбу упарадкаваньня зямельных стасункоў на Усходніх Землях ў духу права і справедлівасьці, ацаняючы споўна значэньне індывідуальнаго і заможнаго селянскаго стану для дабра краю,—асабліва бяручы пад увагу справядлівыя і абапёртыя пажаданьня беззямельнаго і малазямельнаго насяленьня, вызваленаго ад векавога уціску і крывавага тэрору бальшавікоў праз польскаго жаўнера, каторы прыносіць ёй разам з палітычным вызвалень-

## Асілак.*)

(Легенда з часоў паншчыны).

II.

Лета, сьпякота, млось. Пад сонейкам налючым людцы на полі панскім, як мурашкі, поўзаюць. А ўвечары, па дарозе цёмнай,—гоман позны, косы, сярпы бразкаюць. Прыдуць людзы дамоў, з духу выбʼюцца, сядуць разувацца на калодачцы,—ножухны бедныя гудуць, гудуць. І ўстаці ня хочацца. Сядзеў бы так без канца у зьняможнасьці. Цяжэнька даводзіцца Васілю. Стар стаў, а прыгон жа ня зменшыўся, адбывай яго, як і даўней з маладою сілаю. Упала на сілу і Ганна яго, аслабела, рукі, ногі млець пачалі. Сама—як папера, белая. То ёй селядца да сьмерці пабажаецца, то гуркоў сольных хоць спад зямлі дабудзь, а дай. І ў рабоце з яе ўжо памошніца невялікая. Бывала, да сонейка печ заслонкаю пасьпее зачыніць. Цалюткі дзень на прыгоне, аж да зоркі, ваюецца, а дамоў ідзець, Васіля бадрыць: «Пойдзем шыбчэй, мой ты любенькі!—гэтак кажаць яму;—за вячэраю адпачнем ды на сваё ляда зьбегаем. Пакуль сон ня зморыць абугоньку абматыжым, лянку пасеем». Во якая была. — «Ат, хапіць таго лёну, — дражніць Васіль; — не вялікая патрэба ў ім“. Глыбака уздыхнець яна: «А праўда, Васілёк, твая: не вялікая патрэба, калі няма для каго сарочкі шыць. Каб то былі дзетухны»... Бывала, ад Вялікадня да Спаса хлеб такі, што ў рукі возьмеш—увесь чыста крышыцца, сам разваліцца; бо ня столькі ў ім мукі, колькі грубае кары бярозавай, сушанай, кашкі ды лебяды. А ў Спасаўкі хлебам такім

*) Гл. № 1.

нем і адраджэньне гаспадарчае,—пастававіў ўвясьці на гэтых абшарах—затрыманую да апошняга часу праз урады захватчыкоў—зямельную рэформу.

З гэтай мэтай прыказваю Цывільнаму Упраўленьню Усходніх Зямель безадкладна прыступіць да прыгатаваньня адпаведных праэктоў закону, каторые — згодна з зямельнай рэформай, ухвалянай Устаноўчым Соймам Польскай Рэспублікі ў дзень 10 ліпеня 1919 г., запэўняюць беззямельным і малазямельным можнасьць здабыцьця рацыанальных варштатоў працы, а так сама урэгулююць валаданьне зямлею ў той спосаб, што Гасударство будзе распаражацца для каланізацыі і парцэляцыі дастатачнай лічбай зямлі, ўзятай з гасударственых маемасьцяў і грунтоў, выкупляных ў меры поступу парцэляцыі ад прыватных ўласьнікоў дарогаю законнага прымусу".

Ня меючы перад сабой праэктаў закону, каторы ў мысьль Начальніка Польскай Рэспублікі „урэгулюець валаданьне зямлею" на абшарах „Усходніх Зямель", трудна што небудзь сказаць аб гэтай рэформе, каторая покуль што толькі намечана прыказам 26 мая г. г. Калі праэкты, апрацаваные Цывільным Упраўленьнем Усходніх Зямель стануць законам і будуць апублікаваны, тады можна будзе гаварыць аб іх вартасьці. А пакуль што мы маем перад сабою факт волі Начальніка Польскай Дзержавы. Толькі Устаноўчые Соймы нашаго краю (беларускаго і літоўскаго) могуць па праву вырашыць зямельнае пытаньне, бо толькі яны могуць быць правамоцнымі гаспадарамі сваёй зямлі і ніхто іншы.

# 20-я ўгодкі па Пранукy Багушэвічу.

Сёлета мінула дваццаць гадоў, як памёр вялікі беларускі пясьняр і адраджэнец, запраўдны рэволюцыянэр Пранук Багушэвіч. Нарадзіўся ён у 1840 годзе, ў Ашмяншчыне, пахадзіў з дробнай шляхты, з спольшчанай сям'і. Вучыўся спачатку ў Вільні, а потым у Пецярбурзе на матэматычным аддзеле. Перад паўстаньнем 1863 г. вярнуўся да дому і быў нейкі час вучыцелем народнае школы. Хадзіў з паўстанцамі, быў паранены, а потым паехаў да Нежына, дзе выўчыўся на адваката. Нежынскі ліцэй ён скончыў у 1868 годзе, а пасьля гэтага доўга мандраваў па Расеі і дзесяць год пражыў на Украіне, быў сьледавацелем пры судзе ў Канатопскім павеце. Там ён добра пазнаёміўся з украінцамі, з іхнай літэратурай і рухам адраджэньня. Пазьней ён

---

ды цыбулькаю з квасам аб увесь дзень і мадзелі без адпыхі працуючы. А цяпер з прыгону ледзьва к поўначы так-сяк прыдыбаець. І яды сабе не дабярэць; то ёй квснага, то салодкага. Ды ўсё тое нічога! Весяліцца Васіль радасьцю вялікаю: «Дало рады зельле дзедава». — «Ах, дай ты, матка навышняя! Толькі цяжанька мне, мой сівы галубок, ў старых гадох уцяжку хадзіць", — так жаліцца Ганна мужыку свайму. На Спаса ў мясьцечку іхным вялікі торг. Зьязджаюцца людзі на кірмаш з павету цэлага. Цыганы з конямі панаедуць, хто іх ведае, з якога боку далёкага; кажуць, нібы-то ажно з Аўстрыяцкай зямлі. Надвечар перад Спасам сьвятым, як людцы, з прыгона прыбегшы, у ладьні парыліс, сямёхдзённы пот змывалі, чорныя сарочкі на белыя мянялі, дык у гэты час ехалі цыганы нейкія. Закутала Ганна статак свой, карову пацыркала, стол памыла, павучыньне дзе-троху з большага паскінула і выйшла на вуліцу шыбы ў вакне чыстай ганчырачкай праціраць. Васіля з лазьні чакала. Аж тут зьдзівілася: вядуць два цыганы старога бацьку цыганскага падпашкі, а ў таго й ногі ня служаць, пятухаюцца. Сьледам старая цыганка йдзець і вочы ражком стрыкатае махрыстае хвусткі безперастанку трэць. Падыйшлі да Ганны. Бах! кінулася ў ногі цыганіха: «Бабанька родная! Сястрыца мая, панюхна, золатца! Па ўсёй ваколіцы аб табе слава слаўная. Дык пусьці ж ты, ворухна, зьмілуйся, дзеда майго ў хату сваю, занядужаў ён у дарозе, мой татанька»... Троху быццам Ганна спужалася, але той час агоўталась: «Заначаваць? А чаму-ж, — кажа, — можна сабе».—„А хай табе Богаддасьць за тваю ласку, рыбулька мая! — лавіла цыганка рукі Ганьніны, цалаваць ці варажыць — хто яе ведае, званіла маністамі і ўсё

асеў у Вільні, як адвакат, а пад канец жыцьця пераехаў у двор Кушляны, Ашм. пав., дзе і памёр у 1900 годзе. Багушэвіч здабыў сабе няўміручую славу сваімі вершамі. Дзеля царскай забароны на беларускі друк, Багушэвіч мусіў друкаваць іх заграніцаю і выпускаць пад рознымі псэўданімамі. Так «Дудка беларуская» Мацея Бурачка выйшла у Кракаве (1891 г.); „Смык беларускі" Сьмона Рэўкі з-пад Барысава выйшаў у Пазнані (1894 г.). Апрача гэтых зборнікаў, Багушэвіч напісаў шмат розных рэволюцыйных апавяданьняў і вершаў, якія пайшлі ў народ без усякага імя, а таксама апрацаваў колькі народных жартаўлівых пераказаў, як „Сьведка", Дзядзіна", „Палясоўшчык" і інш. Пашыранасьць твораў Багушэвіча сярод беларускага народа, глаўным чынам, сялян, відаць хоць бы з таго, што „Дудка" выйшла ў 1918 годзе ў Вільні пятым выданьнем, а „Смык"—чацьвертым; гэта ня гледзячы на нацыянальны ўціск, цемнату народа і на тое, што сярод беларускіх інтэлігентаў пераважалі тады выралкі і перакінчыкі да Маскоўшчыны ці Польшчы. Трэба яшчэ сказаць, што кнігі Багушэвіча друкаваліся дагэтуль, на вялікую шкоду, толькі лацінікаю, і ўсё-ж астатняе выданьне іх, у зьвязку з палітычнымі падзеямі, раскуплена ў адзін год! Цяпер „Дудкі" і „Смыка" у продажы амаль зусім няма. Вясковая моладзь ў Ашмяншчыне, Віленшчыне, Лідшчыне і ў другіх кутках Беларусі кажуць вершы Багушэвіча напамяць, як чыстанародныя творы. Асабліва любіць народ поэмку „Кепска будзе", а таксама вершы «У судзе», „Скацінная апека", „Быў у чысцы", „Ня чурайся", „У вастрозе", «Здарэньне», „Хціверц і скарб на сьвятога Яна" і інш. На ўсходзе Беларусі, у Віцебшчыне і Магілеўшчыне, кожны двор і кожна хата любіць і ўмее напісанае Багушэвічам і пашыранае ў сьпісках „Панскае ігрышча", хоць ніхто, навет „інтэлігенты" ня ведаюць, хто напісаў проці паноў гэткі войстры вершык. Грунтам поэзіі Багушэвіча ёсьць ўсебаковае духоўнае і матэр'яльнае адраджэньне беларускага сялянскага народа. Магутным спосабам для такога адраджэньня ён уважаў нацыянальнае на соцыяльнай падставе усьведамленьне нашай мужыцкай грамады. Галоўную роль у нацыянальным усьведамленьні Багушэвіч аддаваў мове, жывому і пісанаму слову. Разумеў ён і тое, што сьвяты абавязак песьняра, сына свайго народа, вымагаець ад яго войстрай і гняўлівай праўды аб розных злосьніках мужыка, як паны, гандляры, інтэлігенты-выралкі, благая адміністрацыя, нячыстыя духаўні-

---

цёрла хвусткаю вочы чырвоныя; — хай цябе нагарадзіць сіла анельская, хай табе багародзіца пашлець сына шчасьлівага... Паначаваць, мая галубачка, а калі хадзяін твой дасьць дазвол, дык ня турыце ад сябе майго татаньку, пакуліцька з торгу не пакажамся". Увялі хворага ў хату, паклалі на лаўку яго. — „Ой, канаць рыхтуецца мой татанька", — галасіла цыганка расхрыстаная, а маладыя цыганы стаялі, моўчкі ўтупіліся, спусьцілі прад сабою рукі і зрэдку шапкамі варушылі. Стары цыган, ускалмачаны, з вусмі даўжэннымі, жоўтымі пад дзюбатым насом з гарбінаю, круціў белкамі ды хрыпеў і вадзіў рукамі, як граблямі, па голых, валасатых грудзёх.—«Ідзі... Гэць!— махнуў ён на жонку,—ня вытурыць гаспадар мяне». Ня ведала Васіліха, што сказаць. Цыганка ж, стогнучы і падбіраючы махры, паплялася з хаты з тымі маладымі.—„Гы, гы,— хрыпеў цыган: — ня турыце, гаспадынька, мяне, бо сама ведаеш долю падданую. Паваражу табе, усю праўду скажу табе. Ня так, як нашыя бабы, не зманю. Я шмат чаго ведаю".. Так і застаўся ён. Прышоў Васіль, пашкадаваў хворага. Ганна ў лазьню схадзіла. Павячэралі. Паднясла латушку цыгану; сербануў лыжкі з тры. Спаць пакладіся. Цыркуны у цёплым запеччу зацыркалі. А нараніцы хворы троху ачуняў. Пакуль Ганна ў царкве была, раззюкаўся з Васілём. Устаў з лаўкі па парозе здолеў сесьці над вольным ветрыкам.—„Добрая гаспадынька ў цябе, татанька мой,—казаў так Васілю. Добрая і турботная. Бо і ёсьць, клапаціцца аб чым. Вось сына радзіць будзе, мукі будуць".— „Сына? — зьдзівіўся Васіль,—хто ведае?"—«О, татанька мой, — крутнуў цыган жоўтыя бялкі з-пад калматых броў; шмат чаго наўкол нас творыцца, што можна ведаць, ды ня кожны

кі і інш. Значэньне Багушэвіча ў гісторыі нашае літаратуры дужа вялікае. Багушэвіч — вялікі пясьняр і духоўны бацька нашага адраджэньня. Ен першы ўсенародны беларускі прагадыр і першы беларускі пясьняр-рэволюцыянэр. Рэволюцыйнасьць яго творчасьці хаваецца ня ў праграмных словах ці часовым настрою, не, Багушэвіч — рэволюцыянэр па духу, ад прыроды; ня кніжкі, таварышы ці жыцьцё зрабілі яго такім, не,—ён такім радзіўся. Як пясьняр клясавы, вяшчук соцыяльнай рэволюцыі, Багушэвіч займае адно з першых месцаў у сусьветнай поэзіі. Ня дзіва, што народ сам, скарэй за інтэлігентных крытыкаў пачуў яго веліч. Яшчэ адна вялікая вартасьць Багушэвіча: ён нацыянальны беларускі пясьняр, ён застанецца беларусам і у перакладзе на другую мову. Тварыў ён выключна пабеларуску, ня так, як іншыя нашы старыя пісьменьнікі, што кідалі ў роднай мове толькі крошкі.

N.

## Адозвы Беларускай Вайсковай Камісіі

Ніжэй мы замешчаем адозвы Бяларускай Вайсковай Камісіі, каторыя печатаюцца ў газэці „Беларусь“, выходзячай ў Менску.

I.

БЕЛАРУСЫ!

Бацькаўшчыне пагражае небясьпека!

У каго бьецца сэрца сына свайей вямлі, хто любіць родную старонку, —

Ідзеце ратаваць Маці-Беларусь!

№ 112 (168) „Беларусі“, Менск, 28 мая 1920 г.

№ 113 (169) «Беларусі», Менск, 29 мая 1920 г.

II.

Грамадзяне - Беларусы!

Варожая навала, што пагражала нашаму старому Менску, адбіта дзякуючы адвазе і ахвярам польскага войска. Але ня кінулі маскоўскіе тыраны каваць путы на нашую волю, на волю Беларусі. Зьбіраюць яны з усяго сьвету дзікіх, ахвочых да рабунку людзей і пасылаюць катаваць нашую Бацькаўшчыну

Гараць вёскі і месты. Тысячы братоў нашых паўцякалі с-пад родных стрэх. Такая-ж доля чакае і усіх нас. Хто-ж павінен бараніць нас, як ня мы самі, як не нашае войско, Беларускае войско?

Устаньма-ж на абарону радзімага краю!

Пад штандар Пагоні, у беларускае войско!

Хто дужы і малады — да зброі!

№ 112(168) «Белар.»; Менск, 28 мая 1920 г

---

ведае. Паваражыць, гаспадар, табе? Ай, можа, ня важышся? Праўду бо шчырую скажу. І добрае, і злое скажу, — як баішся, то ня трэба варажыць». Падаў яму дрыжачую руку Васіль. — „Вось... Шмат тужыў ты на вяку сваім, братка мой, — забубнеў цыган, пацыганску, як гарох, словы сыплячы,—а яшчэ ня ўсю ты чарнату перабыў, татанька мой, і усё за дзетак. Ды пасьля аб гэтым. Рана ты сіратою застаўся. Добры ты чалавек. Сьціплы, гарэлкі ў рот не бярэш, ня курыш ты. А вось быў у цябе з паўгода назад адзін стары чалавек, богаў пасланец, раду важную даў табе. Родзіцца твой сын, калі ўдаму ня будзеш ты, не пры табе ён радзіцца. Калі... ох, нязвычайнае дзіцятка будзе. Сілы непамернай. Як вырасьце, дык ні зьвер яго не зачэпіць, ані куля яго возьмець, ані людзі сваёю сілаю ня сходаюць, бо яго сіла будзе нялюдзкая. Што захоча, тое зробіць. Не захоча прыгон служыць,—ня будзе, і ніхто не зацеіць яго. У яго волі скалануць увесь сьвет. З можаць і народ з няволі вызваліць і паншчыну зьніштожыць павекі-вечныя. Толькі... відзіш? ірвецца лінія. Калі пражывець першую гадзіну — выжыве, а не — значыцца, сьмерць яго. З дзіва ён панесены маткаю, за маленьні зьняважаных, пакрыўджаных“...—„Ух!“—глыбака ўздыхнуў Васіль, потам аблізўшыся. — «А жонцы аб гэтай варажбе ты, чалавеча, лепей не кажы. Бо ад магкі выходзіць дзіцёначку любоў вялікая і бяда вялікая. Ад яе і нейкай яшчэ жанчыны старой. А сам ты неўзабаве пакараны будзеш за ня свой, а за нечы грэх чужы».— «Няго абсякуць?».

Максім Гарэцкі.

((Працяг будзе.

III.

## СЯЛЯНЕ, БРАТЫ—БЕЛАРУСЫ!

Дзікая Масква ізноў ідзець на нас. Ізноў будзе рабавацца дабрабыт нашай роднай старонкі. Ізноў у зьдзеку і паняверцы маскоўцаў можам апынуцца мы.

Браты Сяляне! У нас, на Беларусі, досыць зямлі і памешчыцкай і нашай, каб здаволіць ею ўсіх нас, тутэйшых людзей. Нам трэба толькі наладзіць парадак. Кіраўнікі Беларускай політыкі ўжо дагаварыліся з Польшчай, каб пяпершні парадак і жыцьцё нашае былі зьменены на лепшае. Мы напярэдадні аб'яўленьня незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны, дзе мы, ўсе тутэйшые людзі, будзем лічыць сябе гаспадарамі сваей роднай старонкі. Выбраные ўсімі намі пры вольнай падачы галасоў дэпутаты уладзяць парадкі, патрэбные нам.

Польская Рэспубліка ў гэтым нам паможа, і цяпер, пакуль войскі яе стаяць на нашым фронце, будзем разам з імі бараніць нашу зямельку. Але маскоўскіе бальшавікі, якіе ўжо здружыліся з Брусілавым і другімі чорнасоценными белымі царскімі прыслужнікамі, ізноў ідуць на Беларусь, ды ізноў нясуць з сабой вайну і руйнаваньне нашай Бацькаўшчыне.

Нам патрэбна зямля, нам патрэбен парадак. У часе вайны з бальшавікамі немагчыма было гэтага правесьці.

Адгонім жа, браты, маскоўскіх наезьднікаў, не дапусьцім іх на нашу зямельку. Не патрэбна нам ні бальшавіцкая комуна, ні Брусілаўска-гэнэральская маскоўская улада. Усе на дапамогу войску, якое бароніць Беларусь. Афіцэры і жаўнеры-беларусы, нашы вясковые людзі, якіе ахвотнікамі зьявіліся ў Беларускую Вайсковую Камісію, выступаюць на фронт проці бальшавікоў. Памагайце! Навала маскоўская блізка. Не дамо панаваць на Беларусі Троцкаму і яго кампаніі. З'яднайцеся пры польскіх і беларускіх вайсковых аддзелах і-зараз жа на фронт бараніць сваю зямельку, Родную Беларусь. Вораг блізка, ўсе за зброю!

№ 113 (169) „Беларусі",
Менск, 29 мая 1920 г.

**Беларуская Вайсковая Камісія.**

IV.

## БЕЛАРУСЫ!

Хто хоча незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны,
У кім бьецца беларускае сэрца,
Каму неумагату зьдзек чужынцаў
Хто можа трымаць у руках стрэльбу—
Запісвайцеся у беларускае войско!

**Беларуская Вайсковая Камісія.**

№ 115 (171) «Беларусі»,
Менск, 2 чэрвеня 1920 г.

# На белым сьвеце.

## Расійскіе саветы і ангельскіе трэд-юніёны.

„Robotnik" паведамляе аб прынятку делегацыі ангельскіх соцыялістоў ў Самары. На паседжаньні Самарскага Савету прэдстаўнік мусульманскіх комуністоў засьведчыў, што не зложаць аружжа, пакуль Індзія не будзе вызвалена з пад ярма ангельскага капіталізму.

На гэта прэдстаўнік трэд-юніёнаў Віліямс выразіў сваю шчырую радасьць з прычыны перамог савецкай арміі над Расійскай контр-рэвалюцыяй.

## Мірные перагаворы Савецкай Расіі з Літвой.

„Gazeta Warszawska" піша, што „мірные перагаворы паміж Літвой і Савецкай Расіяй працякаюць ў Маскве шыбкім тэмпам і спадзеваюцца, што мірны трактат можа быць падпісаны за 2—3 тыдні".

## У Латвіі.

Латвійскі Урад падаўся ў адстауку. Новы габінэт яшчэ не сфармован. Соцыалісты не бяруць удзелу ў стварэньні новага габінэту. У міравых перагаворах з Савецкай Расіяй вышла запрыманьне.

## Вурокі жыцьця.

Нядаўно ў Парыжу пад кіраўніцтвам п. Мілюкова адбыўся сход гуртка Расейскай Партыі Народнай Свабоды, ці, як яе карацей называюць, партыі кадэтаў. На гэтым сходзе было констатовано, што барацьба царскіх генералоў

Колчака, Дэнікіна і Юдзеніча з бальшавікамі пацярпела няўдачу дзеля таго, што урады гэтых генералоў не хацелі прызнаць за сялянамі права на зямлю, перашэдшую да іх ад раздзела памешчыцкіх і казенных маенткаў, а таксама нехаценьнем лічыцца з меньшымі народамі, насяляючымі б. Расею, якія дабіваюцца незалежнага жыцьця. Кадэты лічаць патрэбным і надалей весьці барацьбу з бальшавікамі расейскімі сіламі, але-каб гэта барацьба была зразумела сялянам, трэба усім рускім людзям згадзіцца з тым, што земля, перашэдшая у рукі сялян, павінна быць прызнана іх уласнасьцю і зараз-жа замацована за імі. Яны таксама прызнаюць цяпер права за малымі народамі на незалежнае жыцьце.

Цікаво, што гэта самая партыя тры гады таму назад была праконана, што вялікія землеуласнасьці можна паменьшыць толькі парадкам выкупа такіх зямель ад памешыкау і прадажы іх сялянам. Яна таксама знаходзіла, што Расея павінна быць „единая и неделимая“. Гэта значыць, што жыцьце навучыло Расейцаў таму, чаго да гэтых пор на жаль не разумеюць другія суседнія нам народы.

## Нашы прадстаунікі за граніцай.

У Рэваль з Парыжа прыехаў старшыня беларускай дэлегацыі на Парыжскай канфэрэнцыі Е. М. Ладноу. У інтэрв'ю з карэспандэнтамі рэвальскага друку ен а палажэньні беларускай справы між іншым сказаў вось што: грунтоўнае заданьне дэлегацыі—адстаяць цэласьць і непадзельнасьць Беларусі. П. Ладноу быу запрошаны у камісію па заграні̇чным справам французскай палаты дэпутатсу, дзе зрабіў поўны даклад аб палажэньні Беларусі. Па яго словам дэпутаты французкага парлямэнту абецалі сваю помач у тым, каб Беларусь дабілася сваёй незалежнасьці.

# ХРОНІКА.

### Рост коопэрацыі.

У межах Віленскага Вокруга за апошні час больш-меньш лічыцца спажывецкіх таварыстваў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1, | ў Дзісенскім | павеце | 34 |
| 2, | „ Лідзкім | „ | 32 |
| 3, | „ Вілейскім | „ | 32 |
| 4, | „ Брацлаўскім | „ | 23 |
| 5, | „ Свенцянскім | „ | 21 |
| 6, | „ Ошмянскім | „ | 18 |
| 7, | „ Горадзенскім | „ | 17 |
| 8, | „ Новагрудзкім | „ | 16 |
| 9, | „ Троцкім | „ | 16 |
| 10, | „ Вільні | „ | 17 |

Усяго маем 226 коопэратываў. Не залежна ад гэтаго каля Вільні ёсьць шмат сельска-гаспадарска-гандлёвых гуртКоў („kółek rolnicze-handlowych“), каторыя займаюцца тым самым, што і спажывецкія таварыства, як закупкай і падзелам прадуктаў першай патрэбы, а не тавараў сельскай гаспадаркі, для каторых яны арганізаваліся.

### Перамены ў Упраўленьні Усход. Зямлямі

„Dziennik Urzędowy“ Цыв. Упр. Усх. Зямель агласіў выданы Вярхоўным Камандуючым 29 мая г. г. прыказ:

„У згодзе з п. Старшынею міністроў пастанаўляю: выходзячы з фінансовых і гаспадарчых поглядоў, паддаць п. ген. камісара ад 1 чэрвеня 1920 г. Радзе Міністроў Польскай Рэспублікі з адпаведальнасьцю за деяльнасьць перад Урадам Польскай Рэспублікі“.

У справах, датычачых Усход. Зямель п. генеральны камісар будзе карыстацца правам голасу на паседжаньнях Рады Міністроў.

Пастановаю Верхоўнаго Камандуючаго з Цыв. Упраўленьня Усход. Зямель вылучаецца ад 1 чэрвеня упраўленьне почтаў, тэлеграфу і тэлефону і перадаецца пад загад Міністра почт і тэлеграфоў Польскай рэспублікі.

### Беларускія школы у Вільні.

Віленская Беларуская Школьная Рада ў самым хуткім часе (калі магчыма, то раней восені) атчыняе ў Вільні некулькі пачатковых беларускіх школак. Дзеля таго, кап выявіць лік вучняў, якія захочуць вучыцца ў гэтых школках, а так сама і раёнаў, у якіх іх трэба атчыніць. Школьная Рада просіць бацкоў, каторые хочуць аддаць сваіх дзяцей ў беларускія школы, зараз-жа заявіць аб гэтым Школьнай Радзе. Заявы з паказаньнем ліку дзяцей, іх прозьвішчаў і адрэса трэба подаваць ў Канцэлярыю Школьнай Рады, Вострабрамская, 9.

# ПАТРЭБЕН ХЛАПЕЦ ДА ДРУКАРНІ.

**Зьвяртацца, Троцкая № 13. Друкарня „ДРУК“.**

---

## Выйшла з друку першая кніжка беларускага зборніка

# „НАША НІВА“

**ЗЬМЕСТ:** Да чытачоў.—Ант. Новіна: Палітычные лозунгі беларускага руху. —Інж. А. Галавінскі: Увагі аб эканамічна - фінансавай адбудове Беларусі.—А. Уласаў: Хатніе промыслы ў Беларусі. — І. Луцкевіч: „Ай Кітаб“.—Янка Купала: Хаўтурны марш (пераклад з К. Уейскага).—Максім Гарэцкі: Патаёмнае.—З індускае паэзіі (пераклад).—Бібліографія.—Беларускіе нацыянальные установы.

**Цана 10 марак.**

---

## ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ТЫДНЕВАЯ ГАЗЭТА

# „КРЫНІЦА“

**Рэдакцыя і адміністрацыя: Дом пры Касьц. сьв. Яна, 2.**

**Адчынена ад 9 да 11 і ад 3 да 5 г. штодня.**

„КРЫНІЦА“ каштуець: на год 100 мк. на поўгода 50 м. на 3 м. 25 м.

АСОБНЫ НУМАР 2 МАРКІ.

Друкуецца лацінскімі літэрамі.



---

Рэдактар Г. Богдановіч. Выдавец У. Знамяроўскі.

Пазволена Ваеннаю Цанзураю. Друкарня . Кооп. Тавар. „ДРУК“, Троцкая, 13.